# Ніва

**БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК**

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 42 (764) БЕЛАСТОК 19 КАСТРЫЧНІКА 1970 г. ЦАНА 60 гр.



*Грае і спявае «Лявоніха».* *Фота Цаф. — Сянько*

# Людоўцы на Сакольшчыне

Саколка ў нядзелю, 27 верасня 1970 г. У канферэнцыйнай зале Павятовага камітэта партыі сабраліся найбольш заслужаныя дзеячы людовага руху, актывісты і члены павятовага камітэта Аб'яднанага людовага страннiцтва. Прыехалі з усіх кутkoў Сакольшчыны, каб урачыста адзначыць 75-ую гадавіну арганізаванага людовага руху ў Польшчы.

Разгледзеўся я па зале. Найбольш тут старэйшых сялян, якія добра ящчэ памятаюць даваенны час, калі ў вёсках Сакольскага павета дзейнічала некалькі дзесяткаў гурткоў Людовага страннiцтва і 15 гурткоў Саюза вясковай моладзі «Віці». Вацлаў Карбоўскі, які зараз жыве ў Граеве, хадзіў з вёскі ў вёску і агітаваў, каб сяляне ўступалі ў рады Людовага страннiцтва. Памагалі яму: Мечыслаў Благушэўскі, Баляслаў Гелажын, Антон Казлоўскі, Казімеж Карны, Ян Бэндэр, Браніслаў Маліноўскі, Ян Яткоўскі ды і іншыя. Асабліва заслужыўся Мечыслаў Благушэўскі. Ён не перастаў агітаваць сялян на барацьбу нават у час гітлераўскай акупацыі. Быў заснавальнікам сялянскай партызанскай баявой арганізацыі, якая спярша называлася «Хлостра», а пасля пераўтварылася ў «Сялянскія батальёны». Загінуў ён у 1943 годзе. Пасля павятовым камендантам сялянскіх батальёнаў на Сакольскі павет быў назначаны Браніслаў Маліноўскі. Цяпер ён кіруе працай пачатковай школы ў Янове і адначасова з'яўляецца старшынёю грамадскага камітэта ЗСЛь у гэтай жа мясцовасці. Пяць год таму назад за выдатныя заслугі ў барацьбе з акупантам Рада Дзяржавы ўзнагародзіла яго Кавалерскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы.

— Дзейнічае ў нас, — гаворыць сябра Браніслаў Маліноўскі, — гістарычная камісія. Накапіла яна ўжо шмат матэрыялаў пра гісторыю прагрэсіўнага сялянскага руху на Сакольшчыне. Тут ён быў настолькі вялікі, што сяляне Сакольскага павета змаглі прапхнуць у даваенны Сейм уласнага пасла. Быў ім Адольф Савіцкі. Калі лясныя рабочыя ў 1933 годзе ўзнялі забастоўку, прылучыліся да іх гаспадары з Новага Вострава, Шудзялава, Вярхлесся, Талькоўшчыны, Боркаў і Сакалянаў. Калі гарбары з Крынак пакінулі працу і дамагаліся павышэння зарплаты, сяляне Сакольскага павета прыйшлі ім з дапамогай. Калі гітлераўцы намагаліся знішчыць усё, што адносілася да мясцовай культуры, прафесар Сабалеўскі (зараз дэкан Варшаўскай палітэхнікі) наладзіў у Янове тайную сярэднюю школу, а іншыя настаўнікі вучылі па вёсках сялянскіх дзяцей.

Цяпер у радах ЗСЛь на Сакольшчыне згуртавалася звыш тысячы чалавек. 80 гурткоў гэтай партыі дзейнічае ў вёсках, а 10 — у мястэчках.

Да старэйшых далучыліся маладыя. Вось такія, як Галіна Вайноўская, лабарантка з Сакольскага ПЗГС-у, якая з'яўляецца старшынёю гуртка ЗСЛь у сваёй установе. Гурток гэты налічвае 34 члены і лічыцца адным з буйнейшых гурткоў на Сакольшчыне. Сама пані Галіна ўжо сем год з'яўляецца членам ЗСЛь. Вось як Чэслаў Саросек, па прафесіі настаўнік, па занятку зараз гаспадар і студэнт Вышэйшай настаўніцкай школы ў Гданьску.

— Бацькі памерлі, засталася гаспадарка, не было каму займацца ёю, дык гаспадару я, — паясняе грам. Саросек.

Жыве ён у вёсцы Панятовічы і з'яўляецца старшынёю мясцовага гуртка ЗСЛь. Гурток гэты быў заснаваны толькі пяць год таму назад, а ўжо налічвае ён 25 членаў. Павятовыя дзеячы ЗСЛь указваюць на яго, як на добры прыклад умелай грамадскай працы.

За трыбунай стаіць сябар Вацлаў Канопка — старшыня павятовага камітэта ЗСЛь у Саколцы. Выступае з дакладам аб гісторыі і цяперашніх дасягненнях людовага руху на Сакольшчыне. За добрае гаспадаранне хваліць Яна Яткоўскага з Новага Янова, Баляслава Гелажына з Цясніска, Альберта Карнага з Заброддзя, Расціслава Курылу з Ласоснай і Станіслава Хлябовіча з Шацілаў. Вёску Шацілы асабліва адзначае. Падае яе як прыклад для іншых у працы грамадскім чынам. Сяляне з Шацілаў перабудавалі ўласнымі сродкамі вуліцу, а гэта склала суму ў 300 тысяч злотых.

Калі ён далей прыводзіць лікі аб развіцці і планах Сакольскага павета, я зрокам шукаю ў зале герояў сённяшняга дня. Гэта Аляксандр Рафаловіч, сакратар павятовага камітэта ЗСЛь і актывіст БГКТ, гэта Антон Пліхта — гаспадар з вёскі Панятовічы, гэта Ян Яткоўскі — селянін з Новага Янова. Іх лёгка пазнаць. Сёння былі яны адзначаны крыжамі заслугі. Аляксандр Рафаловіч — Афіцэрскім Крыжам Ордэна Адраджэння Польшчы і адзнакай «Заслужаны для Беласточчыны», Антон Пліхта — Залатым Крыжам Заслугі, а Ян Яткоўскі — Бронзавым Крыжам Заслугі.

— Кожны член страннiцтва, — гаворыць дакладчык, — сваімі паводзінамі і гаспадараннем павінен даць прыклад свайму асяроддзю.

І гэта праўда. Аляксандр Рафаловіч ужо 15 год кіруе працай павятовага камітэта ЗСЛь у Саколцы, ды шмат часу прысвячае на грамадскую дзейнасць у іншых арганізацыях, між іншым, у БГКТ. Антон Пліхта — гэта перадавік сельскагаспадарчай вытворчасці, а Ян Яткоўскі — член сялянскай партыі ад 1935 года і таксама добры гаспадар.

*В. Рудчык*

# Пад пагрозай турмы

Знаходжуся я на Бельшчыне, у вёсцы Вярцэнь. Патомкі вярценскіх, шляхецкіх грэчкасеяў неахвотна прымаюць у сваё асяроддзе людзей звонку.

Пад нумарам 32 у невялікай, драўнянай, беднай з выгляду хаце жыве сям'я Грынявецкіх: Антон, якому зараз 69 год, яго жонка Казімера, якой 72 гады, іх сын Зыгмунт — 38 год, яго жонка Яніна...

Гэта яе трывожны, болем і слязьмі перапоўнены ліст прымусіў нас неадкладна наведаць гэтую вёску.

Яніна Грынявецкая, па бацьку Пампух, выводзіцца з багатай сям'і, якая жыве ў вёсцы Сямёны — 25 кіламетраў ад Вярценя. Бацькі Яніны маюць амаль 20-гектаровую гаспадарку, аднак ніхто ў іх родзе ніколі не быў шляхціцам. Дачку выдалі замуж у шляхецкую сям'ю, бо там хацелі яе браць, бо там Антон Грынявецкі прасіў яе ў бацькоў і сына падгаварваў, каб з ёю жаніўся. Шляхціц на багацце лакомы, а Пампухі абяцалі багаты пасаг.

«Мой бацька, — пісала да нас Яніна, — быў з багатага роду, дык у пасагу даў мне 50 тысяч зл...»

Цесці пярэчаць, што гэтага пасагу не было, але іх сын аднак гаворыць, што яго жонка праўду кажа, што пасаг быў. Так ці інакш, факт фактам, што Яніна роскашы ў сям'і Грынявецкіх не мела. Адна з вярценьскіх гаспадынь расказвае:

— Калі ў маладых Грынявецкіх нарадзілася першае дзіцё, хлопчык, яго Збышкам назвалі, Яніна была вельмі слабая, а цёшча ў нічым не хацела ёй памагаць, нават малака не было каму нагрэць. Не любілі яе Грынявецкія. І муж Зыгмунт тады таксама быў за бацькамі.

Працяг на стар. 4



*...Прысутныя асабліва зацікавіліся выдавецкай дзейнасцю ГП БГКТ. На стар. 3. чытайце справаздачу аб вечарыне ліцэальнай моладзі Беластока ў беларускім клубе.*

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### ВІЗІТ МІРНАГА СУПРАЦОЎНІЦТВА

Калі аддаем гэты матэрыял да друку, у Савецкім Саюзе заканчваецца васьміднёвы візіт прэзідэнта Францыі Жоржа Пампіду. Аб яго выніках цяжка пісаць, паколькі яшчэ не апублікавана афіцыяльнае камюніке. Аднак пасобныя выказванні як Ж. Пампіду, так і кіраўнікоў Савецкага Саюза сведчаць аб узрастаючым супрацоўніцтве Францыі і СССР — дзяржаў з розным эканамічна-палітычным ладам.

Назіральнікі падкрэсліваюць факт, што Ж. Пампіду з'яўляецца другім шэфам з заходніх дзяржаў, які наведаў савецкі касмадром. Першым быў таксама прэзідэнт Францыі генерал дэ Голь.

Выступаючы з прамоваю ў Новасібірску, прэзідэнт Францыі з захапленнем гаварыў аб дасягненнях і развіцці Сібіры. У рамках супрацоўніцтва між нашымі дзвюма краінамі, — сказаў Ж. Пампіду, — Францыя гатова далучыцца да гэтага развіцця.

Старшыня Савета Міністраў СССР А. Касыгін, выступаючы з прамоваю, адзначыў, што савецкія людзі праяўляюць глыбокую сімпатыю і павагу да французскага народа, да Францыі. Пранесеныя праз усю гісторыю любоў французаў да сваёй радзімы, дух барацьбы за яе свабоду і незалежнасць, працавітасць і ўменне атрымліваць радасць з вынікаў сваёй працы, арыгінальнасць навуковых і інжынерна-тэхнічных пошукаў і рашэнняў, — усё гэта стварае аблічча той Францыі, якая пакінула глыбокі след у еўрапейскай і сусветнай цывілізацыі. Мы гэта адчуваем пры ажыццяўленні супрацоўніцтва з вашай краінай у самых розных галінах палітыкі, культуры і міжнародных справах.

### ЦВЁРДЫ ПРЫХІЛЬНІК

У сувязі з тым, што ў апошні час афіцыйныя асобы ў ЗША распаўсюджваюць усялякія выдумкі, што быццам у сувязі з пазіцыяй Савецкага Саюза адбываецца абвастрэнне сітуацыі на Бліжнім Усходзе, Міністэрства замежных спраў СССР апублікавала заяву.

— Ва ўмовах, — гаворыцца ў заяве, — калі ААР і Іарданія пацвярджаюць сваю гатоўнасць да перагавораў, калі па сутнасці захоўваецца стан спынення агню, толькі ад пазіцыі Ізраіля і знешніх сіл, што падтрымліваюць яго, залежыць, ці будуць выкарыстаныя гэтыя спрыяльныя магчымасці ў інтарэсах палітычнага ўрэгулявання на Бліжнім Усходзе. Савецкі Саюз быў і застанецца цвёрдым прыхільнікам палітычнага ўрэгулявання праблем Бліжняга Усходу на аснове рэзалюцыі Савета Бяспекі ва ўсіх яе частках.

### ФІДЖЫ

10 кастрычніка г.г. брытанская калонія ад 1874 года Фіджы перастала існаваць. Заканадаўчы савет пераўтворыцца ў палату прадстаўнікоў. Першым прэм'ерам новай дзяржавы з'яўляецца лідэр партыі адзінства Рату Мару. (ак)



## БССР

### З'ЕЗД АРХІТЭКТАРАЎ

Адбыўся дзесяты з'езд архітэктараў Беларусі. У прывітальным пісьме да з'езда ЦК Кампартыі Беларусі гаворыцца:

«Намаганні Саюза архітэктараў павінны быць накіраваны на ўкараненне ў практыку ўсяго новага, перадавога, прагрэсіўнага, што садзейнічае стварэнню значных твораў архітэктуры, паляпшэнню аблічча гарадоў і вёсак».

Дэлегаты з'езда з вялікай увагай праслухалі выступленні старшыні праўлення Саюза мастакоў Беларусі В. Грамыкі і народнага мастака Беларускай ССР З. Азгура.

Старшынёй Саюза архітэктараў Беларусі выбраны Ю. Шпіт.

### ЗВАННЕ ЗАСЛУЖАНАГА

Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР прысвоены ганаровыя званні заслужанага настаўніка Беларускай ССР вялікай групе работнікаў беларускай народнай асветы. З Брэсцкай вобласці званні гэтыя атрымалі Вольга Алісіевіч — дырэктар Сулічэўскай васьмігадовай школы Драгічынскага раёна, Антаніна Анцімонік — настаўніца Хоінскай сярэдняй школы, Георгі Мілашэўскі — дырэктар Брэсцкай абласной станцыі юных тэхнікаў, Ніна Сідаровіч — настаўніца Беразнякоўскай пачатковай школы Камянецкага раёна, і інш; з Гродзеншчыны — Генавефа Вянцковіч — дырэктар Буцілаўскай васьмігадовай школы, Ірына Дуброўская — дырэктар Навадворскай сярэдняй школы Свіслацкага раёна, Георгі Лабовіч — настаўнік Расцевіцкай пачатковай школы Зэльвенскага раёна, Настасся Трафіменкава — настаўніца Макараўскай васьмігадовай школы Бераставіцкага раёна, і інш.

### З ЧЭХАСЛАВАКІІ

Мінск наведала дэлегацыя партыйных работнікаў Камуністычнай партыі Чэхаславакіі з мэтай вывучэння вопыту і прынцыпаў партыйнага кіраўніцтва грамадскімі арганізацыямі.

Госці правялі гутарку ў Цэнтральным Камітэце Кампартыі Беларусі. Затым наведалі мінскі трактарны завод, дзе мясцовыя дзеячы расказалі ім аб рабоце партыйнай арганізацыі па кіраўніцтву грамадскімі арганізацыямі прадпрыемства, адказалі на пытанні гасцей.

### У АНКОЛАГАЎ

У сталіцы Беларусі адбыўся VI пленум праўлення Усесаюзнага навуковага таварыства анколагаў. Абмяркоўвалі адну з найбольш актуальных праблем — раннюю дыягностыку рака.

Вызначэнне захворвання ракам на ранняй стадыі — пакуль што найбольшая гарантыя поспеху ў лячэнні яго.

### НА ЗАВОДЗЕ

На Мінскім заводзе аўтаматычных ліній адбыўся Усесаюзны семінар ліцейшчыкаў прадпрыемстваў станкабудаўнічай і інструментальнай прамысловасці. Госці з розных канцоў Саюза ССР вывучалі вопыт беларусаў.

### СНЯЖКОВА

Ніна Сняжкова назначана намеснікам Старшыні Савета Міністраў Беларускай ССР. (С. Я.)




### ДЗЕНЬ ВОЙСКА

10 кастрычніка напярэдадні свята Людовага польскага войска адбылося ў Бельведэры ўрачыстае ўручэнне актаў намінацыі генералам, атрымаўшым вышэйшую генеральскую ступень і палкоўнікам, атрымаўшым званне генерала. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел члены найвышэйшых улад на чале з Уладзіславам Гамулкам, Мар'янам Спыхальскім і Юзэфам Цыранкевічам. Вітаючы генералаў, Старшыня Рады Дзяржавы маршал Польшчы Мар'ян Спыхальскі сардэчна павіншаваў іх і перадаў найлепшыя пажаданні. Падкрэсліў ён адначасова, што ўмацоўванне абароннасці краіны мае асабліва значэнне для забеспячэння ўмоў далейшага, сацыялістычнага развіцця нашай айчыны. Абароннасць нашай краіны — сцвердзіў Старшыня Рады Дзяржавы — апіраецца на двух асноўных прынцыпах: пастаянным развіцці нашай сацыялістычнай гаспадаркі і саюзе з сацыялістычнымі краінамі, а перш за ўсё з Савецкім Саюзам, які з'яўляецца галоўнай абароннай сілай сацыялізма.

### АХОВА ПРЫРОДЫ

Адбылося першае пленарнае пасяджэнне Польскага камітэта аховы асяроддзя чалавека, які створаны на правах урадавага органа. Яшчэ перад стварэннем камітэта адбыўся шырокі абмен поглядаў на тэму рацыянальнага выкарыстання багаццяў прыроды, і супрацьдзеяння адмоўным з'явам развіцця цывілізацыі. Уваходзячыя ў састаў камітэта прадстаўнікі міністэрстваў, цэнтральных устаноў, свету навукі і тэхнікі дыскутавалі над супольнай праграмай і метадамі дзеяння. Камітэт створаны з мэтай каардынацыі працы ўсіх міністэрстваў, устаноў і навуковых інстытутаў, якія займаюцца аховай натуральнага асяроддзя чалавека, а таксама — з мэтай развіцця супрацоўніцтва ў гэтай галіне з міжнароднымі арганізацыямі. Старшынёю камітэта выбраны намеснік прэм'ера З. Томаль.

### ПРАПАНОВЫ

9 кастрычніка адбылося пад кіраўніцтвам тав. Р. Стшалецкага пасяджэнне камісіі Рады Дзяржавы да спраў радаў нарадовых, на якім былі прааналізаваны інфармацыі аб выкананні прапаноў выбаршчыкаў, зробленых падчас выбарчай кампаніі ў Сейм і рады нарадовыя.

### СКУПКА

Падчас сустрэчы з сельскагаспадарчым актывам Велькапольскі выступаў сакратар ЦК партыі Юзэф Тэйхма. Сказаў ён, што паводле навейшых ацэнак сёлеташніх плёнаў былі яны значна горшымі, чымсьці паказвалі ацэнкі, зробленыя месяц таму назад. Некаторыя ваяводствы маюць плёны на 3—5 цэнтнераў з гектара ніжэйшыя, чымсьці ў мінулым годзе. Пры тым надалей маем неспрыяльныя для сельскай гаспадаркі атмасферныя ўмовы. У сувязі з гэтым у месяцы верасні скупка збожжа была ніжэйшай ад мінулагодняй на 700 тысяч тон, а скупка свіней на 10 тысяч тон. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### ПЛЕНУМ ВК ПАРП

8 кастрычніка адбылося пленарнае пасяджэнне Ваяводскага камітэта партыі. Тэмай працы пленума была ацэнка і напрамкі развіцця дробнай вытворчасці. Вёў пасяджэнне член ЦК, І сакратар ВК А. Лашэвіч. На пасяджэнні прысутнічалі старшыня Цэнтральнай камісіі партыйнага кантролю, прэзас НІК Зэнан Новак, старшыня Камітэта дробнай вытворчасці Ежы Кусяк, прэзас ЦЗСП А. Футра і віцэ-прэзас ЦЗСП Г. Гарнцарчык. Эканамічны сакратар ВК С. Рубчэўскі ў сваім уступе да дыскусіі звярнуў увагу сабраных на асноўныя праблемы дробнай вытворчасці, ахарактарызаваў яе месца ў гаспадарцы нашага ваяводства.

Прадукцыя дробнай вытворчасці складае амаль трэцюю частку прадукцыі прамысловасці нашага ваяводства, а сярэдні паказчык па краіне — 13%. Аднак удзел нашай дробнай вытворчасці ў дробнай вытворчасці краіны складае толькі 2—3%. Прычына гэтай з'явы заключаецца ў недастатковай велічыні вытворчага патэнцыялу, ў слабым тэхнічным абсталяванні дробнай вытворчасці і інш. Таму на беластоцкіх прадпрыемствах дробнай вытворчасці ніжэйшая прадукцыйнасць працы. Лепш выглядаюць у нас асобныя напрамкі дзейнасці дробнай вытворчасці. Напрыклад, удзел рынковай прадукцыі ва ўсёй таварнай прадукцыі складае ў беластоцкім аб'яднанні дробнай прамысловасці больш 69%, а сярэдні паказчык у краіне — 55,5%.

Вялікае месца займае дробная вытворчасць у выкананні гаспадарча-грамадскай праграмы актывізацыі нашага ваяводства. Але не ва ўсіх паветах яшчэ выкарыстаны капіталаўкладанні з фонду актывізацыі малых гарадоў, асабліва спулдзельчасцю працы.

За 1960—69 гады дробная вытворчасць павялічыла сваю прадукцыю ў некалькі разоў, у два разы ўзрасла колькасць рабочых, дынамічна развіваецца прадукцыя на экспарт.

Эканамічны сакратар звярнуў увагу і на адмоўныя з'явы ў галіне дробнай вытворчасці і паслуг для насельніцтва. Напрыклад, нягледзячы на развіццё экспартнай прадукцыі, выразна не папраўлілася яе рэнтабельнасць. У паслугах дробная вытворчасць не паспявае за хутка растучымі патрэбамі насельніцтва.

На заканчэнне свайго выступлення тав. С. Рубчэўскі зазначыў галоўныя напрамкі развіцця дробнай вытворчасці: хутчэйшы арганізацыйны, тэхнічны і эканамічны прагрэс у галіне спецыялізацыі і канцэнтрацыі вытворчасці і паслуг пры лепшым прыстасаванні іх да мясцовых патрэб і сыравіны, паляпшэнне якасці вырабаў і паслуг, лепшае выкарыстанне сродкаў прадукцыі, павышэнне прадукцыйнасці працы і абніжка сабекоштаў прадукцыі, а таксама павышэнне кваліфікацыі і адказнасці людзей за сваю працу.

Пасля выступлення эканамічнага сакратара завязалася дзелавая дыскусія.

(яч)




**Niedziela 18.X.**

7.45 Program dnia; 7.50 TV Kurs Rolniczy: „Jesienne zabiegi agrotechniczne"; 8.25 „Przypominamy, radzimy"; 8.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie"; 9.00 Dla młodych widzów: TV Klub Śmiałych — „Złota piłka"; 9.55 Program filmowy; 12.00 Transmisja meczu piłki nożnej Stal (Mielec) — Ruch (Chorzów); W przerwie ok. 12.45 Dziennik; 13.45 „Wieś o agronomie"; 14.15 Dla dzieci: J. Wilkowski „Przygody skrzata Dzięcielinka"; 14.45 „Robert Louis Stevenson" — („Portrety") — film TV ang.; 15.15 PKF, 15.25 „Piórkiem i węglem"; 15.55 Turniej Wiedzy Politycznej Kół studenckich ZMS i ZMW; 16.55 „Polska tu powróci..." — Michał Kajka („Wielcy znani i nieznani"); 17.40 Film rozr.; 18.25 Estrada Poetycka: „Bo tylko tam, gdzie światło" („Strofy poezji świata"); 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Z wizytą u mnie; 20.50 „Wielka wygrana" — film fab. USA; 22.20 Magazyn Sportowy.

**Poniedziałek 19.X.**

15.20 i 22.35 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Fizyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.30 „Echo stadionu"; 17.55 „Gruziński koncert estradowy" — film radz.; 18.25 „Eureka"; 19.00 „Kukiery" — film dok. bułg.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr TV: A. Kowalska — „Safona"; 21.15 „Lektury współczesne"; 21.30 Koncert muzyki klasycznej — utwory Fr. Schuberta (Moskwa); 22.15 Dziennik.

**Wtorek 20.X.**

10.00 „Dziewczyna na rozdrożu" — film fab. bułg.; 11.30 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — L. Kruczkowski „Niemcy"; 12.40 Przerwa; 12.45 i 13.55 Przysposobienie Rolnicze: „Określanie wartości pokarmowych pasz"; 13.25 Przerwa; 15.20 i 23.05 Politechnika TV I roku. Matematyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Telewizyjny Ekran Młodych; 18.25 „Na przyspieszonych obrotach"; 19.00 „Leśni szperacze" — film TVP; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Dziewczyna na rozdrożu" — film fab. bułg.; 21.35 „Polska zza siódmej miedzy"; 22.05 „Chopin 70" — III serwis filmowy z II etapu VIII Międzynarodowego Konkursu Pianistycznego im. Fr. Chopina; 22.45 Dziennik.

**Środa 21.X.**

9.00 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „Włodzimierz Lenin"; 9.30 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Przyrządy optyczne"; 10.30 „Skandal rodzinny" — film ang. („Saga rodu Forsytów"); 11.20 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Chemia — „Ropa naftowa"; 12.25 Przerwa; 12.45 „Wybieramy zawód"; 13.05 Przerwa; 15.20 i 22.50 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy. Matematyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla młodych widzów: „Telewizja i Ty" — „O telemanii"; 17.15 Magazyn ITP; 17.30 „Zagubiony plan"; 17.55 „Jesień" — film („Cztery pory roku"); 18.25 Wszechnica TV: „Ajenci, fama i fakty" („Sztuka liczenia"); 19.00 TV Kurier Warszawski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Skandal rodzinny" — film ang. („Saga rodu Forsytów"); 20.30 „Światowid"; 21.20 PKF, 21.30 „Muzyka XX wieku, czyli bądź tu mądry" („Słuchamy i patrzymy"); 22.30 Dziennik.

**Czwartek 22.X.**

8.15 Matematyka w szkole: „Równoległość przestrzeni trójwymiarowej" — wariant I; 8.45 Przerwa; 9.55 Dla szkół: (kl. IV lic.) Język polski — „Tomasz Mann"; 10.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — „Ignacy Krasicki"; 12.25 Przerwa; 15.20 i 22.45 Politechnika TV I roku. Chemia; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 17.35 „Zrób to sam"; 17.50 „Czy można inaczej" — program wiejski; 18.20 „Śpiewa Sława Przybylska"; 18.50 „Przypominamy, radzimy"; 19.00 TV Kurier Lubelski; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Teatr Kobra: Z. Safian — „Umarli mają alibi"; 21.05 „Chopin 70" — IV serwis filmowy VIII Międzynarodowego Konkursu Pianistycznego im. Fr. Chopina; 21.55 „Refleksje"; 22.25 Dziennik.

**Piątek 23.X.**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Zajęcia techniczne — „Nowoczesne systemy produkcji"; 10.25 „Podróż poślubna" — film franc. („Szczęście małżeńskie"); 10.50 „Dzieci Don Kichota" — film fab. radz.; 12.20 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. I-III lic.) Przysposobienie obronne — „Współczesne środki napadu i rażenia"; 13.15 Przerwa; 15.20 i 22.40 Politechnika TV I roku. Matematyka; 16.25 Program dnia; 16.30 Dziennik; 16.40 Dla dzieci: „Pora na Telesfora"; 17.25 „Nie tylko dla pań"; 17.50 Magazyn medyczny; 18.20 „Gramy o telewizor" — teleturniej; 18.40 „Pedagogika i Literatura"; 19.00 TV Kurier Mazowiecki; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 „Podróż poślubna" — film franc. („Szczęście małżeńskie"); 20.30 „Kraj"; 21.10 Teatr TV: Scenariusz — E. Szuster — „Tropienia dni dziesięć"; 22.30 Dziennik.

**Sobota 24.X.**

10.00 „Siódmy rok miłości" — film fab. NRD; 11.20 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Nasza Rada"; 12.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół: (kl. VIII) Geografia — „Algeria"; 13.15 Przerwa; 15.15 Program dnia; 15.20 TV Kurs Rolniczy: „Aktualne zagadnienia polityki rolnej"; 15.55 Program tygodnia; 16.15 „Oferty"; 16.30 Dziennik; 16.45 Dla młodych widzów: „Konkurs 5 milionów"; 17.45 Magazyn turystyczno-krajoznawczy; 18.10 „Serenada" — film radz.; 18.35 „Pegaz"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.20 „Gallux Show"; 21.10 Dziennik; 21.25 „Na wypadek nieszczęścia' '— film fab. franc.




**Piątek, 16 października**

8.05 Nowiny; 8.15 Dla uczniów; 8.40 Melodie Dunajewskiego; 12.55 Nowiny; 14.45 Program dnia; 14.50 Nowiny; 15.00 Koncert; 15.30 Panorama nowin; 15.50 Nasza poczta; 16.30 Koncert; 17.00 Spektakl TV; 18.15 Czas; 18.45 Koncert; 19.05 J. Kupała „Paulinka". Spektakl Teatru im. Kupały; 21.05 Koncert z Berlina.

**Sobota, 17 października**

8.00 Przegląd międzynarodowy; 8.15 Nasza poczta; 8.45 Film animowany dla dzieci; 9.20 Zasłużony działacz sztuki BSRR M. Bierau; 10.15 Koncert; 11.00 Nasze wywiady; 11.55 Program międzynarodowy; 14.45 TV teatr dla dzieci; 13.00 Uniwersytet ludowy; 14.30 Program międzynarodowy; 14.55 TV teatr dla dzieci; 16.00 Nowiny; 16.05 Kronika półwiecza. Rok 1956; 17.00 „Pojedynek" Film fab.; 18.40 Czas; 19.10 TV teatr miniatur; 20.00 Koncert.

**Niedziela, 18 października**

8.00 Dzień spożywców; 8.30 Koncert życzeń; 9.00 Olimpiada fizyczna; 10.00 Ekran dla dzieci; 11.00 Almanach TV; 12.05 W świecie zwierząt; 13.20 Dla żołnierzy; 13.45 TV teatr dla dzieci; 15.00 Klub filmowy; 16.00 Nowiny; 16.05 Dla wsi; 16.30 Kiosk muzyczny; 17.00 Film fab. 18.30 Czas; 19.00 Klub wesołych; 21.15 Koncert; 21.45 Nowiny.

# ГАТОВЫ



## ЗАРАЗ і Ў БУДУЧЫНІ

*«Абарона Айчыны з'яўляецца самым святым абавязкам кожнага грамадзяніна».*

*(Артыкул 78 Канстытуцыі ПНР)*

Падрыхтоўка ўсяго народа і кожнага грамадзяніна да абароны абсалютна не з'яўляецца праявай ваяўнічасці. Добрая маральная і практычная падрыхтоўка не толькі не правакуе вайны, але дзякуючы глыбокай волі апору можа спыніць агрэсію ворага. Не ўключацца ў магутную самаабарону насельніцтва ў перыяд пагрозы зброі масавага паражэння — гэта абазначае капітуляваць без барацьбы і прызнацца пераможаным.

Справа ў тым, каб кожны грамадзянін нашай дзяржавы ўмеў сябе весці ў выпадку нападу зброяй масавага паражэння, каб ведаў спосабы самадапамогі і ўзаемнай дапамогі, якія захавалі б яго або паменшылі б вынікі гэтага ўдару.

Калектыўная самаабарона — гэта адна з найстарэйшых форм барацьбы чалавека за існаванне і за быт. Роля яе вельмі ўзрасла пры нападах ворага з паветра, а яшчэ больш пры пагрозе зброі масавага паражэння, тэрмаядзернай, хімічнай і бактэрыялагічнай). З прычын такой пагрозы самаабарона павінна мець спраўна дзейнічаючыя арганізацыйныя рамкі, быць арганізаванай у мірны перыяд, а ўзровень яе павінен сістэматычна павышацца.

Гэтым патрабаванням служаць аддзелы самаабароны, арганізаваныя ў грамадах і гарадах, званыя тэрэновымі (ТОС), і на фабрыках, прадпрыемствах і ва ўстановах — званыя закладовымі (ЗОС).

Сёння знаёмім чытачоў з ЗОС-ам, які працуе ад 1958 года пры Гайнаўскім камбінаце драўніннай прамысловасці.

### ЛЮДЗІ

Душою ЗОС-у з'яўляецца паручнік запасу Леанід Жукоўскі, былы франтавік, воін Савецкай арміі, камандзір ЗОС-у. Ён супрацоўнічае з такімі масавымі арганізацыямі, як ЗМС, ЗМВ, ЛОК, ПЦК, актыўна дапамагае ў арганізацыі самаабароны іншым установам і прадпрыемствам Гайнаўшчыны. Дапамагаюць яму — Эдвард Таргош, кіраўнік складу на заводзе, і Януш Станіслаўскі, галоўны эканаміст завода, як намеснікі камандзіра.

Зразумела, адпаведная праца і шкаленне былі б немагчымымі без кіраўнікоў паасобных спецыялістычных служб. Тут працуюць такія людзі, як Лідзія Савіцкая — шэф медыцынска-санітарнай службы, якая працуе ў аддзеле самаабароны ўжо 10 год; працаўнік механічнага аддзела Віталі Валкавыцкі — шэф службы тэхнічнага ратаўніцтва; рабочы Віктар Нялепка — шэф службы абеззаражвання і дэзактывацыі; Леапольд Савіцкі, працаўнік адміністрацыі; Юры Трык — электрык і іншыя.

Нельга таксама не ўспомніць аб такіх самаадданых членах самаабароны, як столяр У. Красоўскі, А. Камарчук і Д. Віннік.

### 60 ЛІТРАЎ КРЫВІ

Падрыхтоўка да самаабароны гэта не выключна роля члена ЗОС-у. У штодзённай працы яны як першыя нясуць дапамогу грамадству. Пачынаючы ад 1966 года члены ЗОС-у гайнаўскага камбіната аддалі ганарова больш 60-ці літраў крыві, найбольш каштоўнага, бо незамянімага лякарства.

У хроніцы ЗОС-у запісана і такое здарэнне. На заводзе здарыўся нешчаслівы выпадак, прычынай якога быў асколак у дрэве. Рабочаму неабходная была кроў. Першыя адклікнуліся на заклік дырэкцыі і аддалі сваю кроў члены самаабароны Мікола Засім і Уладзіслаў Варанецкі.



*Медыцынска-санітарная служба ў часе ваеннай вучобы.*



*Члены ЗОС-у на ўрачыстым паходзе.*

Члены самаабароны не цураюцца грамадскай працы і чынаў на карысць завода і горада. Вартасць чынаў членаў ЗОС-у за 1969 год ацэньваецца на больш 4-ох мільёнаў зл. Апрача таго, супрацьпажарная служба пабудавала памяшканне на пажарніцкія прылады і пажарніцкі самаход. Працавалі таксама грамадска пры пабудове пачатковай школы № 1.

Гаворыць дырэктар камбіната Аляксей Зін.

— Аддзел самаабароны прыносіць нам апрача вучэнняў і штодзённыя канкрэтныя карысці. Не буду паўтараць пра чыны і крывядаўства, але аб такіх справах, як напрыклад тое, што добра падрыхтаваныя члены медыцынскай службы першыя дапамагаюць пры нешчаслівых выпадках, або пра ахову нашага завода перад пакражамі, у якой члены ЗОС нясуць выдатную грамадскую дапамогу. Але найбольшае дзякуй ім за сёлеташнюю зіму. Было і так, што калі б не быў давезены вугаль да завода на працягу двух гадзін, дык пагражалі многамільённыя страты і ўстрыманне прадукцыі. Склікаць завадскі калектыў у такім кароткім часе было немагчыма. Адклікаліся мы да нашага ахвярнага ЗОС-у. Выкарыстоўваючы веды службы сувязі і трывог, мы склікалі ў так кароткім часе фабрычны калектыў, расчысцілі 6-метровыя снегавыя заносы, выратавалі машыны, не спынілі прадукцыю...

Зараз самаабарона гайнаўскага камбіната мае ўжо за сабой асноўнае шкаленне. Паасобныя службы ўдасканальваюць набытыя веды. У апошніх ваенных вучэннях, якія праводзіў Павятовы ваенны штаб, члены самаабароны выказаліся дасканалым апанаваннем ведаў, а вынік, пастаўлены камісіяй, быў выдатны.

Можна смела сказаць, што на гайнаўскім камбінаце драўлянай прамысловасці людзі гатовы да самаабароны зараз і ў будучыні.

*А. КАРПЮК*



*Служба сувязі ў вучэбным кабінеце ЗОС-у.*



*Служба абеззаражвання і дэзактывацыі ў акцыі.*

*Пачатак на стар. 1*

# ПАД ПАГРОЗАЙ ТУРМЫ

У 1962 годзе нарадзілася ў маладых Грынявецкіх другое дзіця — дзяўчынка, якую назвалі Алінкай. А праз два гады Грынявецкія ўжо не вытрымалі супольна, рашылі сваю невялікую хату раздзяліць на дзве часткі. Пачалі жыць асобна, аднак і гэта, відаць, не ўціхаміла іх закаранелай варожасці.

Пытаю Антона Грынявецкага:

— Чаму няма ў вас згоды з сынам, чаму сварыцеся з нявесткай? Чаго ад іх хочаце?

— А мы ад іх нічога не хочам, хай толькі пакінуць нас у спакоі!

— Яна дарогу не дае мне спакойна перайсці! — адзываецца Казімера Грынявецкая, цёшча Яніны.

— Гэта няпраўда! — крычыць Яніна і голымі каленямі падае ў крапіву, што расце пад плотам. — На Бога самага вышэйшага, на паненку святую! Я ў нічым не вінавата! — галосіць яна праз слёзы.

Слухаю я, слухаюць яе дзеці: 8-гадовая Алінка і 11-гадовы Збышак, слухаюць цесці. Сэрца і вушы баляць ад крыку, а яна галосіць:

— Пане, паночку! Ратуйце мяне! Яны — тут рукой паказвае на цесцяў, — яны хочуць нас згубіць, каб я з турмы не вылезла...

І сапраўды, для Яніны Грынявецкай пагражае турма. Ужо двойчы ў Бельскім павятовым судзе абвінавачваў яе пракурор у злачынстве супраць грамадскага парадка. І двойчы суд сваім прыгаворам пацвердзіў гэтыя абвінавачванні. *Дык Яніна Грынявецкая мае адсядзець у турме 1 год з першага прыгавору і заплаціць 2 тысячы (дзве тысячы) штрафу з другога прыгавору.*

За што?

12 верасня 1969 года міліцыянер з Боцькаў, плютановы Сяргей Гольдштайн запісаў у пратаколе: Антон Грынявецкі, з вёскі Вярцень, уласнік шасцігектаровай гаспадаркі, драўлянага дома і клуні, абвінаваціў сваю нявестку Яніну і сына Зыгмунта ў тым, што:

*«...б'юць мяне і маю жонку, абліваюць нечысцю і выганяюць з хаты, гаворачы, што майго няма нічога. Ад дня 20 ліпеня 1969 г. да сённяшняга дня (значыць да 12.09.69 г. — В. Р.) Яніна Грынявецкая штодзённа мне і маёй жонцы не дае карыстацца маімі гаспадарчымі будынкамі, абзываючы вульгарнымі словамі, як: «Гітлерам», «сіваяем» і т.п., б'е мяне і пагражае, што заб'е»...*

Сведкі Язэп Планоўскі, Анна Касінская, Галіна Вярцінская, Станіслаў Камінскі, Тадэвуш Бжэзінскі і Антон Вайдакоўскі — усе з вёскі Вярцень — спярша перад боцькаўскімі міліцыянерамі, а затым пад прысягай у судзе поўнасцю пацвердзілі ўсе факты. Аж здзіўляе іх аднадумнасць. Усе яны паўтаралі абвінавачванні ў адрас Яніны і Зыгмунта Грынявецкіх, быццам завучаную лекцыю. Усё яны бачылі і чулі. Нічога тады дзіўнага, што суддзя ў сваім абгрунтаванні прыгавору напісаў:

*«...Паказанні спамянутых сведкаў заслугоўваюць на давер, яны лагічныя і пераканаўчыя...»*

Толькі адна асоба — Ядвіга Зох, якая жыве за 8 кіламетраў ад Вярценя, сястра абвінавачанай Яніны, выступіла ў яе абарону. Зразумела, што яе ніхто не паслухаў і не таму, што яна сястра, але перш за ўсё таму, што ў час паказанняў абвінавачаных Ядвіга Зох сядзела ў зале і слухала, што яны гавораць.

Дык Яніна і Зыгмунт Грынявецкія засталіся бездапаможнымі. Ці ж бы аж так глыбока паверылі ў святую справядлівасць сляпой багіні Тэміды, што не палічылі патрэбным забяспечыцца адвакатам і сведкамі? Ведалі ж, што сведак з боку старых Грынявецкіх — Антон Вайдакоўскі, які сам быў пакараны за бойку з Янінай, гэта зяць абвінаваццеля, Антона Грынявецкага, што сведак Язэп Планоўскі — гэта першы сябар па кілішку Антона Вайдакоўскага, што сведак Галіна Вярцінская з'яўляецца сваячкай гэтага ж Вайдакоўскага, што іншыя сведкі рознымі ніткамі звязаны або з Вайдакоўскімі, або са старымі Грынявецкімі. Нават суддзя ў сваім абгрунтаванні прыгавору сцвярджае:

*«...Характэрнае тое, што абвінавачаныя жывуць у нязгодзе з усімі найбліжэйшымі сваімі суседзямі, ЯКІЯ ВЫСТУПАЮЦЬ У ЯКАСЦІ СВЕДКАЎ...»*

Суддзя гэтую нязгоду суседзяў паклаў у мяшок з вінай Яніны і Зыгмунта Грынявецкіх. Невядома аднак чаму гэты суддзя не заўважыў, што калі сведкі жывуць у нязгодзе з абвінавачанымі, дык не могуць даваць аб'ектыўных паказанняў, а тым больш не могуць даваць паказанняў у абарону абвінавачаных.

І яшчэ адно: чаму пракурор, зацвярджаючы вынікі следства боцькаўскай міліцыі, не звярнуў увагу на тое, што ў актах, якія ён кіраваў у суд, не знайшлося ніводнага нават паказання нейкага нейтральнага сведка ў абарону абвінавачаных? Ці ж бы міліцыя мела абавязак толькі даказаць віну, а не мела абавязку бараніць грамадзяніна?

Ваяводскі суд у Беластоку 27 снежня 1969 года не знайшоў асноў, каб адмяніць прыгавор павятовага суда.

Ізноў жа здзіўляе бязраднасць Яніны і Зыгмунта Грынявецкіх. Яны не явіліся на рэвізійны разбор іх справы, усё яшчэ не прадстаўлялі новых сведкаў, толькі спасляліся на адваката. Апамяталіся, калі ўжо было запозна, калі ўправамоцніўся прыгавор. Тады ў бельскі суд пасыпаліся просьбы, асведчанні і паказанні ад розных людзей з Вярценя ў абарону Яніны і Зыгмунта Грынявецкіх. На адной заяве далічыўся я звыш 20-ці подпісаў. Нават Вярценскі солтыс выставіў Яніне Грынявецкай супердобрую апінію, у якой усю віну ўзвальвае на старых Грынявецкіх. Сваю апінію солтыс для важнасці аштэмпляваў службовай пячаткай.

Усё гэта было дарэмна. Другі прыгавор таксама стаўся ўжо правамоцным. Бельскі суд аб'явіў яго 18-га сакавіка 1970 года. На гэты раз скаргу на Яніну Грынявецкую склала ў боцькаўскую міліцыю яе цёшча — Казіміра Грынявецкая. Абвінаваціла сваю нявестку ў тым, што яна пабіла яе дошкаю па галаве і па іншых месцах цела. Сведкі абвінавачанне пацвердзілі і гісторыя паўтарылася.

Суддзя, зразумела, мог, але не вымушаны быў ведаць, што перад яго абліччам стае толькі адзін новы сведак. Усе іншыя ўжо ў папярэдні раз — 14 лістапада 1969 года — абвінавачвалі Яніну Грынявецкую ў тым, што здзекавалася над сваёй цёшчай, а нават адзін

# ГОРАДУ ГОЛДАП 400 ГОД



*Помнік братэрства ўстаноўлены ў Голдапе ў дзень святкавання 400-ай гадавіны ад заснавання. Выкананы ён па праекту Зофіі Вольскай і Тадэвуша Лодзяна.*

«Шылас» — па-літоўску значыць «бор, лес, верас». Дык назва вёскі Шылайты ўказвае на цесныя сувязі з лесам яе жыхароў. Перад вякамі гэтая вёска знаходзілася ў тым паўночным кутку цяперашняга Беластоцкага ваяводства, дзе яшчэ зараз сярод узгоркаў безупынна шуміць старажытны лес, дзе восенню ярка квітнее верас, дзе глыбокае возера па-даўнейшаму глядзіць у неба сваім сінім вокам.

Гэтая краіна бачыла розных гаспадароў. Спярша жылі там балтыйскія плямёны *галіндаў* і *надроваў*. Так прынамсі падаюць першыя гістарычныя дакументы. А калі паклалі яны галовы пад мячамі тэўтонскіх рыцараў, калі крыжаносцы агнём змялі з вобліку зямлі іх прадвечныя сялібы, зямля гэтая парасла дрымучай пушчай. Была яна натуральнай граніцай між тэўтонскай дзяржавай ды Літвой і Польшчай. А калі рассыпалася магутнасць крыжаносцаў — асабліва пасля грунвальдскага бою — *пачалі на поўнач перабірацца мазуры.* Пасяліліся іх там так многа, што гэтая зямля ў сапраўднасці набрала польскага характару.

У 1565 годзе князь Альбрэхт Гагенцолерн, блізкі сваяк польскага караля Сігізмунда Аўгуста — той самы, які ў 1525 годзе даваў клятву верна служыць польскай дзяржаве і яе каралю — вось ён загадаў на *«тыльжыцкім шляху»*, на месцы вёскі *Шылайты* заснаваць новы горад, які пасля назвалі Голдапам. Князь адвёў жыхарам горада спярша сто ланаў зямлі, а пасля дабавіў ім яшчэ палавіну гэтага. Жыло тады ў Голдапе 350 сем'яў. Карысталіся яны польскім (хэлмінскім) гарадскім правам.

Пасля падзелу польскай дзяржавы горад і яго наваколле папалі ў шматгадовую прускую няволю. Новыя паны стараліся ўсімі сіламі выкараніць з гэтай зямлі ўсё, што напамінала яе польскасць. Гэтыя імкненні паглыбіліся асабліва ў час гітлераўскай улады.

Шмат яшчэ часу прайшло да гэтых студзеньскіх дзён 1945 года, калі на Голдапшчыне паявіліся воіны і танкі з чырвонымі зоркамі. Бой за горад быў вельмі крывавы. Для 12 тысяч савецкіх салдат і афіцэраў быў гэта бой апошні. Склалі яны свае галовы за яго вызваленне, за тое, што зноў вярнуўся да сваёй даўнейшай айчыны.

З вайны Голдап выйшаў зусім разбураны. Першая афіцыйная статыстыка з 1946 года падае, што жыло там тады ўсяго ледзь 632 асобы.

Цяпер, пасля 25-ці год нашага на Голдапшчыне гаспадарання, гэты павет залічваецца да перадавых раёнаў Беласточчыны — гэта славуты раён ЭГО: *Элк, Голдап, Алецка.*

Дык горда і весела святкаваў нядаўна Голдап сваю чатырохсотую гадавіну існавання. Святкуючы яе, жыхары горада не забываюць, каму яны ўдзячны за свабоду, за ўз'яднанне з айчынай. Сімвалам гэтай удзячнасці з'яўляецца «Помнік братэрства», братэрства савецкіх і польскіх воінаў.

*Віктар Рудчык*

*Фота ЦАФ — Сянько*



*Мітынг жыхароў горада Голдап з нагоды святкавання 400-ай гадавіны ад заснавання.*




*Маладое пакаленне жыхароў горада Голдап. Гэтыя дзеці, на шчасце, аб няволі і пасляваенных развалінах могуць толькі прачытаць у кніжках.*

з іх — Язэп Планоўскі адкрыта заявіў: *«Я ўжо даю паказанні на абвінавачаную трэці раз...»*

І тут жа ён дадае, што быў пакараны за пакражу і за тое, што касой разбіў некаму твар.

Так вось разыграўся другі акт трагедыі Яніны Грынявецкай. Усё паказвае на тое, што 1-га лютага 1971 года на год часу, а мо і на даўжэй, замкнецца за ёю брама турмы.

Застануцца дзеці. Што будзе з імі?

Старшыня бельскага суда:

— Мы накіравалі справу ў суд для няпоўналетніх. Там вызначаць куратара.

Старшыня гуртка вясковых гаспадынь у Вярцені:

— Я не ведаю, што будзе з гэтымі дзяцьмі, калі маці пойдзе сядзець. Яны ўжо цяпер нейкія нервовыя сталі, асабліва Алінка. Адзін раз, калі маці паехала ў Варшаву шукаць справядлівасці, а бацька быў у камандзіроўцы, яны ў мяне начавалі. Дык ведаеце што? Гэтая Алінка цэлую ноч спаць мне не дала, штораз зрывалася і клікала сваю маму. Думала, бедная, што маму ўжо забралі.

Стары Грынявецкі:

— Дзеці не вінаваты, што маюць дурную матку! Пражывуць і без яе!

Здзіўляе мяне яго бестурботнасць, якую я чуў у яго голасе і ў славах, а зусім я ўстрывожыўся, калі пачуў, не пытаўшы:

— Дзядуля б'юць маму, адзін раз, вось тут на панадворку, маму перавярнулі, — гэта гаварыла 9-гадовая Алінка. Як жа глыбока закаранілася ў гэтай сям'і воўчая нянавісць! Яна ж перайшла ўжо на другое пакаленне!

ВІКТАР РУДЧЫК

## У АКОПАХ НЕ АКОПЫ

У ваколіцы невялікай вёскі Акопы каля Дубровы знаходзяцца дзіўныя, як на мясцовы густ, курганы, якія называюць часамі «шведскімі акопамі». Назва «шведскія акопы» вельмі папулярная на тэрыторыі Беласточчыны і Беларусі і датычыць яна, пераважна, старaславянскіх ці літоўскіх курганоў ды гарадзішчаў. Аб гэтым мала хто ведае і таму высняецца гэта нібы ваеннымі збудаваннямі ў час славутага нашэсця шведскіх войскаў у XVII ст. на Польшчу, Беларусь і Украіну.

«Акопы» каля Акопаў, як аказалася, гэта стараславянскія курганы з часоў ранняга сярэдневякоўя — прыблізна, з VIII ст. Адзін з гэтых курганоў будзе дакладней даследаваны вучонымі з Беластоцкага рэгіянальнага музея. Уступныя даследаванні ўжо адбыліся, вёў іх археолаг Я. Ясканіс.

У сувязі з тым просьба да ўсіх тых, хто ведае пра так званыя шведскія акопы: аб такіх аб'ектах трэба паведамляць або «Ніве», або рэгіянальнаму музею. Такія інфармацыі маюць вялікае значэнне для планавага даследавання мінулага нашай зямлі.

(ся)

*Адрэж па лініі, назначанай пункцірам, зрабі дзіркі ў месцы, вызначаным кружкамі і нанізвай старонкі на дроцікі або шнурочак.*

**БІБЛІЯТЭЧКА "НІВЫ" · ЯНКА МАУР · ПАЛЕСКІЯ РАБІНЗОНЫ**

5.

— Бач, як яно тут — па некалькі азёраў ідзе, — заўважыў Віктар.

— Гэта яшчэ невядома. А можа, гэта толькі балота? Хто яго цяпер разбярэ? — сказаў Мірон.

Нейкі белаваты струмень, нібы рака, перасек ім дарогу і пачаў адносіць човен убок. Мірон упарта стаў з ім змагацца.

— Сцеражыся! — раптам крыкнуў Віктар.

На іх нёсся вялізны, рагаты корч. Сутычка была немінучая: праскочыць з такім нязграбным чоўнам было ўжо нельга.

— Кладзіся! — крыкнуў Мірон і сам прыціснуўся да дна. Потым працягнуў наперад вясло, упёрся ў корч і паступова пачаў паслабляць руку, каб зменшыць штуршок. Корч не стукнуўся аб човен, але затое яны сашчапіліся і далей паплылі ўжо абодва разам.

— Вось прынесла яго ліха на нашу галаву! — злаваў Віктар. — Як жа цяпер ад яго адчапіцца?

— Пачакай, не гарачыся толькі, адчэпішся, — спакойна сказаў Мірон і паступова, павольна вызваліў човен.

Мінулі азярцо, зноў пайшлі кусты. Часам яны здаваліся астравамі, а калі човен пад'язджаў бліжэй, то мог праехаць праз іх проста па вадзе. Траплялiся і больш вялікія дрэвы: бярэзнікі, алешыны, нават елкі.

Наперадзе, ўжо недалёка, вызначаўся густы, сіні бор.

— А ён, здаецца, стаіць высока, на сухім месцы, — сказаў Віктар і ціхенька ўстаў, каб паглядзець. — Хочацца ногі выпрастаць, здранцвелі зусім.

— Ды пачакай ты, не ўставай, зараз прыедзем, — сказаў Мірон, але і сам не ўтрымаўся, прыпыніўся і пачаў прыглядацца.

— Здаецца, там нібы пясчаны ўзгорак відаць, — прамовіў ён, гледзячы з-пад рукі.

— А човен тым часам наехаў на вір. Не паспелі хлопцы звярнуць на яго ўвагі, як ён панёс іх убок і стукнуўся аб альховае дрэва. Штуршок быў невялікі, і нічога б не здарылася, каб абодва хлопцы сядзелі на дне. А цяпер — Віктар адразу паляцеў у ваду, пад алешыну.

— У-ух! — крыкнуў ён не то ад жаху, не то ад неспадзеўкі, не то ад холаду. Мусіць, ад усяго разам.

А човен ад яго руху так захістаўся ды закруціўся, што Мірон ледзь уседзеў, ухапіўшыся рукамі за бакі яго. Але пры гэтым ён выпусціў з рук вясло. Струмень падхапіў бездапаможны човен і панёс яго далей, да другой алешыны. Падплываючы да яе, Мірон перахіліўся цераз борт і ўчапіўся рукамі за галіну. Тут ён адчуў, што човен нібы выслізгвае з-пад яго. Трымаючыся за галіну бадай што над вадой, Мірон стараўся падцягнуць да сябе човен нагамі, але скончылася гэтая справа тым, што галіна абламалася, хлопец паляцеў у ваду дагары нагамі, а човен, атрымаўшы апошні штуршок і паварочваючыся ў розныя бакі, жвава панёсся наперад. Пакуль Мірон зноў учапіўся за дрэва ды агледзеўся, човен быў ужо так далёка, што дагнаць яго не было ніякай магчымасці, тым больш чалавеку адзетаму і абутаму.

7.

Мірон усміхнуўся.

— Прадбачыць — гэта не значыць раскіснуць. Паглядзім яшчэ, хто будзе больш трывалы. Але час ужо ў дарогу. Эх, не хочацца зноў лезці ў сцюдзёную ваду!

— Пачакай, можа, варта яшчэ пашукаць нашага чоўна? — Можа, ён зачапіўся дзе? — сказаў Віктар. — Маё дрэва вышэйшае, я з яго пагляджу.

— Дзе там! — безнадзейна махнуў рукой Мірон. — Гэтая гладкая калода нават не мае чым зачапіцца. Ды і вір круціць тут ва ўсе бакі.

— Так яно і ёсць! — сказаў Віктар, калі зірнуў зверху.

— Вунь ён ужо выходзіць у возера. Нічога не зробіш, прыйдзецца плысці.

І хлопцы пусціліся ў далейшую дарогу.

Вельмі хутка яны пераканаліся, што плысці ў адзенні — гэта вялікая пакута. Мокрае адзенне і рухацца перашкаджала, і ўніз цягнула. Спачатку хлопцы маглі праплысці без адпачынку якую сотню метраў, а потым ўсё менш і менш. Справа ўскладнялася яшчэ тым, што «станцыі» размяшчаліся зусім не так, як хацелася б. Дрэвы траплялiся вельмі рэдка, і не заўсёды былі яны па дарозе. Часта прыходзілася адпачываць проста ў вадзе, трымаючыся за верхавіны кустоў. А тады цела яшчэ больш дубянела ад холаду. Таму, калі сустракалася дрэва, на якое можна было ўзлезці, то хлопцы больш радаваліся магчымасці пагрэцца на сонцы, чым адпачынку. А кракадзілы і тыгры больш ужо не прыходзілі ў галаву — не да таго было.

Метраў за трыста ад берага хлопцы адчулі пад нагамі зямлю. Калі сталі, то вада даходзіла ім да грудзей. Радасць была надзвычайная. Але зноў бяда: дно аказалася такое дрыгвяное, што ісці па ім не было ніякай магчымасці.

— Ведаеш што? — сказаў тады Віктар. — Давай скарыстаем закон Архімеда.

— Якім чынам? — здзівіўся Мірон ад нечаканасці.

— Калі мы апусцімся ў ваду па шыю, то зробімся лягчэйшымі на столькі, колькі важыць выціснутая намі вада.

— Так.

— Значыцца, мы не будзем загразаць у балоце і пойдзем сабе ўпрысядку, як па шасэ. Вось паспрабуй.

Апусціліся ў ваду — сапраўды ногі не загразаюць. Але як толькі пасунуліся наперад, — пачалі загразаць нават горш, чым раней.

— Вось табе і Архімед! — з прыкрасцю сказаў Віктар.

— Не Архімед вінаваты, а мы самі, — разважліва прамовіў Мірон. — Мы не ўлічылі, што, рухаючыся, павінны пераадольваць супраціўленне вады, а для гэтага вымушаны моцна ўпірацца ў дно.

Такім чынам, хлопцам прыйшлося плысці нават па неглыбокім месцы. Толькі што можна было часцей адпачываць, стоячы на купінках, ды грэцца на сонцы.

Нарэшце яны наблізіліся да берага на такую адлегласць, што рукі пачалі даставаць зямлі. Але стаць усё роўна было немагчыма — зараз жа ногі правальваліся ў багну.

 

6.

Усё гэта адбылося так хутка, што Віктар, які таксама выбіраўся з вады і ўзлазіў на дрэва, нават не заўважыў, што робіцца за яго спіной, тым больш, што Мірон за ўвесь гэты час не падаў аніводнага гуку.

Азірнуўся Віктар — ні чоўна, ні Мірона няма! Што за дзіва такое?

— Міро-о-он! — гукнуў ён.

— Ну! — адгукнулася зусім блізка.

— Дзе ты?

— Тут!

Глянуў Віктар — і вачам сваім не верыць.

— А дзе ж човен?

— Не ведаю.

— Як жа так?

— Ды так. Паплыў.

— Што ж гэта такое? — у роспачы крыкнуў Віктар.

— Прыгода, — спакойна азваўся Мірон з свайго дрэва.

— Што ж ты нарабіў?

— А можа, гэта ты нарабіў?

— Ты ж у чоўне застаўся!

— Хацеў бы я паглядзець, як ты застаўся б, каб цябе так штурханулі, — адказаў Мірон.

Так спрачаліся яны, пакуль не прайшло першае ўражанне ад няшчасця. Ніхто нікога сур'ёзна не вінаваціў, ды і карысці ніякай ад гэтага не было б, але ж трэба было па прывычцы аднаму аднаго папікнуць. І толькі пасля таго сталі яны абмяркоўваць, як выйсці з становішча.

А становішча было такое, што ім нікуды нельга было падацца, апрача таго лесу, што віднеўся наперадзе за кіламетр ці трохі болей. Невядома, ці здолелі б хлопцы праплысці такую адлегласць у адзежы, у сцюдзёнай вадзе, каб гэта была рака ці возера. А на залітым вадою балоце яны мелі шмат «станцый» для адпачынку — дрэвы, кусты і проста неглыбокія мясціны.

Было каля поўдня. Неаглядная водная прастора іскрылася на сонцы. З захаду ледзь дыхаў цёплы ветрык. Вада ціхенька плюхалася каля дрэў. Уверсе са свістам праляцелі дзве качкі. Сонца прыемна саграваў мокрае адзенне хлопцаў. Настрой у іх палепшыўся, асабліва ў Віктара. Ён нават пачаў жартаваць:

— Калі-небудзь, можа, будзем дзякаваць, што так здарылася. Тут табе і мора, і аварыя карабля, і таемны востраў, а там сустрэнуцца дзікуны, бегемоты, кракадзілы, тыгры.

— Невялікае шчасце сустрэць тыгра з голымі рукамі, — сказаў Мірон.

— А ты хочаш, каб табе ўсё гатовае было? Тады лепш было сядзець дома.

— Я і згадзіўся б цяпер лепш сядзець дома. Можа, каб апісаць усё гэта ў кніжцы, дык які-небудзь дурны хлопец і захацеў бы быць на нашым месцы. А я наперадзе не чакаю нічога добрага.

— Эх ты! — з пагардай сказаў Віктар. — Што будзе з цябе далей, калі ты ўжо цяпер раскіс?

8 .

— Што ж цяпер рабіць? — разважаў Віктар, калі прыпыніўся апошні раз на кусце. — Ні плысці, ні ісці нельга.

— Значыцца, трэба паўзці на руках, — сказаў Мірон, выпрастаўся нерухома на вадзе і лёгка паплыў, перабіраючы рукамі па зямлі. За ім пусціўся Віктар.

— Ну як? Цяпер Архімед дапамагае? — спытаў Мірон.

Каб выправіць сваю папярэднюю памылку і паказаць, што ён не горш за Мірона разумее гэтае пытанне, Віктар паспяшаўся даць тлумачэнне:

— Цяпер у нас супраціўленне вады зусім невялікае, і нам не трэба моцна ўпірацца рукамі.

Усё ішло добра, пакуль цела трымалася ў вадзе. А калі яны падплылі да берага метраў на пяцьдзесят ды «селі на мель», тады ўжо ніякім спосабам нельга было рухацца далей. Немагчыма было ні абаперціся рукамі, ні стаць на ногі — ад кожнага руху хлопцы яшчэ больш загразалі ў балоце. Хоць ты назад вяртайся!

Яны чапляліся за кожную ламачыну, за леташні чаротнік, каб толькі знайсці сабе апору. Пастулова яны набралі ў рукі па цэлай вязанцы сухога чаротніку і галля, а затым Віктар выступіў з канкрэтнай прапановай:

— Калі мы не можам паўзці, абапіраючыся на рукі, то паспрабуем паўзці, абапіраючыся на вязанкі, вось так...

Моцна трымаючы дзвюма рукамі вязанку, ён закінуў яе наперад, а потым падцягнуўся да яе ўсім целам. Першы крок быў зроблены. А за ім пайшлі далейшыя крокі, цяжкія, марудныя, але кожны з іх крыху набліжаў жаданую сушу.

Выбраліся на бераг ледзь жывыя, аблепленыя тванню, дрыжачыя ад холаду. На шчасце, бераг выдаўся вельмі ўтульны. Досыць высокі, сухі, ён глядзеў на поўдзень і добра награваўся праменнямі сонца. Пад аховай векавых хвой тут не адчувалася ні малейшага ветрыку; ад нагрэтай зямлі патыхала цеплынёй, як у добры летні дзень. Асабліва вабілі да сябе пляміны чыстага белага пяску. На яго і паваліліся нашы падарожнікі.

— А тут было б зусім нядрэнна, калі б... — пачаў Віктар млявым голасам.

— Калі б не гэтае «калі б», было б сапраўды добра, — згадзіўся Мірон. — Але калі мы засохнем у такім стане, то будзе яшчэ горш, — мы зробімся муміямі.

— Для цябе гэта асабліва небяспечна, бо ты тады зломішся, — засмяяўся Віктар.

— Ды і табе не лепш будзе, — адказаў Мірон, — — Трэба змыць гэтую гразь.

Але так не хацелася ўставаць, распранацца. Цішыня, стома, цеплыня хілілі да сну. Праз некалькі хвілін Мірон зноў сказаў:

— Трэба памыць і высушыць адзенне, пакуль сонца грэе.

— Трэба, — пацвердзіў Віктар.

І абодва засталіся ляжаць нерухома. Праз некаторы час Віктар сказаў:

— Нічога не зробіш, трэба ўставаць.

## Зямля і людзі

### «СЮРПРЫЗЫ» АЎСТРАЛІЙСКІХ ПТУШАК

Чорныя аўстралійскія лебедзі, паселеныя некалькі гадоў назад на сажалцы Цэнтральнага батанічнага сада АН БССР, працягваюць здзіўляць вучоных незвычайнасцю сваіх паводзін.

Позняй восенню 1968 года, калі прырода рыхтавалася да зімы, прышэльцы з далёкага кантынента вывелі птушанят. Відавочна, даў сябе адчуць інстынкт, выпрацаваны доўгім пражываннем ў Аўстраліі. Там у гэты час другая, больш падыходзячая для вывядзення патомства пара года. Малышоў трэба было тэрмінова забраць і даць ім прытулак у цёплай гарадской кватэры, а старэйшых членаў сям'і накіраваць на жыллё ў адну з невялікіх аранжарэй. Там лебедзі і дачакаліся вясны.

У мінулым годзе лебедзі асенняй парой зноў вывелі сваё патомства, прадстаўніком якога з'яўляецца цяпер даволі вялікая і прыгожая лябёдка.

Гэтым летам «аўстралійцы» зноў загадалі загадку — вывелі лебедзянят значна раней. Адно з птушанят хутка загінула, а другое, якому няма і двух месяцаў, пакуль з жаўтаватай, а не чорнай афарбоўкай, пад старанняй аховай двух старэйшых суродзічаў плавае па сажалцы. Лебедзі клапоцяцца аб ім самым найлепшым чынам. Калі ён заплывае далёка, то старэйшыя дзюбамі выводзяць яго на бераг каля доміка, засцерагаючы ад усякай небяспекі. Справа ў тым, што белыя лебедзі, якія не маюць патомства, цярпець не могуць чорнага лебедзяняці.

Гэтым аднак не закончыліся нечаканасці. На працягу 12 дзён лябёдка зноў знесла шэсць яек і 20 жніўня зноў села, рыхтуючыся даць новы вывадак. Гэта ўжо яўнае парушэнне правіл, таму што лічыцца, што гэтыя птушкі робяць адну носку яек у сезон. Арнітолагі гэты выпадак двайной носкі адзначаюць як вельмі рэдкі.

*С. Ратгауз*



### У ПАГОНІ ЗА ІМГНЕННЕМ

1 мільярд кадраў у секунду — з такой хуткасцю здольна весці кінафотаздымку апаратура, створаная ў Савецкім Саюзе. Палёты звышгукавых самалётаў і касмічных караблёў, выпрабаванні скорасных машын, даследаванні імгненных з'яў у прыродзе — усё гэта перастае быць недаступным для вучоных, у распараджэнні якіх тэхніка для звышскораснай здымкі.

Асабліва цікавыя растравыя камеры, якія вядуць здымку з хуткасцю ад 5.000 да 1.000.000.000 кадраў у секунду. У Ленінградскай лесатэхнічнай акадэміі, напрыклад, з дапамогай гэтых апаратаў вывучаюць новыя спосабы апрацоўкі драўніны.

## Куток гаспадыні

## Што рабіць, каб добра зварыць

### СЕЛЯДЦЫ

Селядцы — патрава паспалітая. А колькі ж паэзіі можна ўлажыць у іх падрыхтоўку! Вядома, што вельмі любяць селядцы людзі вясковыя. Бо ж са свінні ці каровы селядца не зробіш. І да іх, перш за ўсё, кіруем сёння свае парады.

Зрэшты, справа селядцоў становіцца ўсё больш надзённай, бо зімовыя святы не за гарамі. І ў сваім кутку парад пачнем памаленьку падрыхтоўвацца да іх.

Селядцы наогул — рыба не толькі смачная. Яна вельмі вартасная — ёсць тут шмат вітаміну А, фосфару і ёду (які знаходзіцца ва ўсіх марскіх рыбах). Неабходна таксама памятаць, што ў 100 г. селядца знаходзіцца больш бялку, чым у 100 г. валавіны (гавядзіны). Селядцы таксама паляпшаюць апетыт, так што варта іх падаваць, вымачыўшы перад гэтым, зняўшы скурку і выняўшы косці, нават дзецям.

І так падаем некалькі рэцэптаў на патравы з салоных селядцоў.

Салоныя селядцы мочым звычайна цэлыя суткі ў вадзе, змяняючы ваду некалькі разоў; перад тым, як намачыць, ачышчаем іх, адрэзваем галовы і знімаем скурку, а апошнія паўгадзіны мочым у салодкім малацэ — селядцы тады становяцца мяккімі і далікатнымі.

*Селядцы з алеем.* Вымачаныя селядцы парэзаць на кавалкі, спырснуць кіпячоным і астуджаным воцатам, разведзеным вадой і крыху пасаладжаным. Нарэзаць кружочкамі цыбулю, палажыць на селядцы, заліць усё алеем. Вельмі смачна! Такія селядцы раім падаць на Куццю, напэўна будуць яны адпавядаць усім: і тым, хто любіць патравы далікатныя, і тым, хто любіць больш вострыя.

*Ральмопсы* таксама добра было б падаваць на свята. На 1 кг добрых тлустых селядцоў бярэм 2—3 цыбуліны, 2—3 кіслыя агуркі, 100 г. гарчыцы (муштарды), шклянку воцату, шклянку вады, крыху цукру, 2—3 лыжкі алею. Вымачаныя селядцы (без галоў) разрэзаць уздоўж напалову, выняць косці. Кожную палавіну селядца мазаць гарчыцай, пасыпаць нарэзанай дробна цыбуляй і кіслым агурком. Пасля скруціць кожную палавіну селядца ў рулецік, пракалоць завостранай запалкай, каб трымалася. Воцат з вадой і прыправамі (лаўровым лісцем, перцам, горкім і духмяным), цукрам — закіпяціць і запарыць ім рэшту нарэзанай кружочкамі цыбулі, астудзіць. У слоіку палажыць ральмопсы, спырснуць алеем, пералажыць іх запаранай цыбуляй і заліць астуджаным воцатам з прыправамі. У халодным месцы іх, як і селядцы з алеем, можна трымаць 2—3 тыдні.

У наступным нумары мы раскажам вам, што можна зрабіць з салоных селядцоў на абед, на штодзень.

*Гаспадыня*




### ЗАГАД ФЮРЭРА

Фрыд дапытваў палоннага на працягу шасці гадзін, але той не паведаміў нічога аб месцазнаходжанні Скарцэні. Магчыма, ён нічога і не ведаў. Раніцай наступнага дня Франц Кеслер быў расстраляны.

Але ў гэты час сотні іншых галаварэзаў з атрада Скарцэні, пераапранутых у форму саюзных войск, пераходзілі лінію фронту, прабіраючыся на тэрыторыю, занятую арміямі ўварвання. У захопленых у саюзнікаў аўтамабілях яны з усіх напрамкаў накіроўваліся да канчатковай мэты — штабкватэры саюзных войск у Версалі, дзе ім, згодна з заданнем, трэба было ажыццявіць замах на галоўнакамандуючага.

«Аперацыя Грыф», як і многа іншых вар'яцкіх планаў Гітлера, распрацоўвалася ў асабістай стаўцы фюрэра — «Воўчым логаве». 20 кастрычніка 1944 года Скарцэні, які атрымаў трохдзённы водпуск, быў у Берліне. Ён знаходзіўся ў атэлі «Адлон», калі яго выклікалі да тэлефона. Асабісты ад'ютант Гітлера загадаў яму тэрмінова прыбыць у стаўку.

«Воўчае логава» знаходзілася ў цяжкадаступным лясным раёне і складалася з некалькіх нізкіх, старанна замаскіраваных жалезабетонных бункераў. Яно было акружана многімі радамі калючага дроту, праз які быў прапушчан ток высокага напружання. Палкоўнік СС з фізіяноміяй, якая нагадвае выскалены чэрап, праводзіў Скарцэні ў прыёмную. Скарцэні зірнуў на гадзіннік — асабісты падарунак Мусаліні, атрыманы пасля таго, як у 1943 годзе ён выкраў дучэ з найвышэйшай вяршыні Апенін проста з-пад носа 500 адборных італьянскіх салдат. Палкоўнік перадаў Скарцэні з рук на рукі ад'ютанту, які павёў наведвальніка па доўгім бетонным калідоры, што ахоўваўся шасцю здаравеннымі дзецюкамі ў форме афіцэраў СС. Спыніліся перад стальнымі дзвярыма таўшчынёй у 40 сантыметраў. Адзін з ахоўнікаў яшчэ раз абшукаў Скарцэні. Затым ад'ютант націснуў на кнопку, і дзверы павольна адчыніліся. Ота Скарцэні перавёў дыханне і ўвайшоў у кабінет Гітлера.

Гэта быў прасторны квадратны пакой. Сцены скрозь завешаны ваеннымі картамі. Насупраць дзвярэй — старадаўні пісьмовы стол з моранага дубу. Да яго правай ножкі была прымацавана металічная пласцінка з надпісам: «Належаў Напалеону Банапарту, імператару французаў. 1804—1810 гг». За сталом стаяў Гітлер.

Тое, аб чым будзе расказана ніжэй, вядома нам непасрэдна з вуснаў гаваркога Скарцэні, які цяпер жыве ў Мадрыдзе. Ён успамінае, што фюрэр быў вельмі ўсхваляваны. Твар яго перасмыкаўся. Вітаючыся Скарцэні адчуў, як дрыжыць рука Гітлера. Нервовы цік быў вынікам замаху 20 ліпеня, які зусім не адбіўся, аднак, на красамоўстве фюрэра. Ён засыпаў падпалкоўніка патокам кампліментаў за выкраданне Мусаліні, затым перайшоў да выхвальнага расказу аб новай зброі, якая, маўляў, прынясе Германіі перамогу ў вайне.

Скарцэні сведчыць: «У Гітлера заблішчэлі вочы, як у

 

# ТРЫБУНА чытачоў

### УПЕРШЫНЮ СУПОЛЬНА

На Сакольшчыне найбольшы дзяржаўны фонд зямлі быў у вёсцы Крушыняны. Большасць гэтай зямлі ляжала цаліною. І тут павятовыя ўлады стараліся правесці ў Крушынянах камасацыю. Калі яна год таму назад закончылася, дык знайшлося каля тысячы гектараў зямлі дзяржаўнага фонду: па тых, што выехалі ў БССР, па тых, што перабраліся ў гарады, па тых, што здалі сваю зямельку за старчую пенсію. Думалі ўлады, што зрабіць з такою колькасцю зямлі? Знайшлося звыш 30 чалавек, якія хацелі заласцыць прадукцыйную спулдзельню. Але гэта былі эканамічна слабыя гаспадары і было б з імі многа клопату. Тады стары рэвалюцыйны дзеяч, былы член КПЗБ, Яўгень Бобка падняўся заснаваць сельскагаспадарчы калектыў. У гэтым дапамог яму павятовы камітэт ПАРП. Праз павятовы аддзел сельскагаспадарчых гурткоў атрымалі крушыняне камбайн, трактары і іншыя сельскагаспадарчыя машыны і на 1970 год пасеялі жыта, авёс і грэчку. Зямлю, пакуль што, зааралі лепшую. Мелі не кепскі ўраджай: у сярэднім 16—17 цэнтнераў. На наступны год калектыў запланаваў пад засеў прызначыць больш зямлі. У яго карыстанні значная частка зямлі дзяржаўнага фонду. Рэшту ўзялі ў дзяржаву гаспадары. Толькі на найгоршай зямлі пасуцца авечкі і каровы.

*А.С. Сакольшчына*

### З КНІЖКАЙ НА ТЫ

Грамадская бібліятэка ў Гарадку змяшчаецца ў будынку Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага. Бібліятэка налічвае 7916 кніжак, якія пазычае 369 чалавек у самым Гарадку і 490 чытачоў у 8 бібліятэчных пунктах, расселяных па Беластоцкім павеце. Найлепш працуюць бібліятэчныя пункты ў вёсках Вейкі і Страшава. У Вейках кніжкі пазычае настаўніца Марыя Ваўрэнюк, а ў Страшаве кіраўнічка святліцы Зіна Лебядзінская.

Найбольш чытаюць у Гарадку Зіна Мелец, Марыя Жамойда, Ніна Мушынская і Аляксей Карач. На працягу гэтага года прачыталі яны ў сярэднім каля 40 кніжак. З моладзі найбольш кніжак прачытала Люцына і Ірэна Матысюк, Аня і Вера Карпюк. Спамянутыя дзяўчаты актуальна з'яўляюцца вучаніцамі пачатковай школы.

Што найбольш чытаюць дарослыя? Аказваецца, чытаюць ахвотна кніжкі (часта і на беларускай мове), якія закранаюць сучасныя тэмы, цікавыя ўспаміны і г.д. Бібліятэка добра забяспечана школьнай лектурай. Каб заахвоціць чытачоў да сістэматычнага чытання, кіраўнічка бібліятэкі Тамара Бурачэўская вядзе пры бібліятэцы гурток любіцеляў кніжкі, які існуе ўжо 13 год. На занятках гуртка кіраўнічка чытае ўголас цікавыя кніжкі, арганізуе слуханне цікавых перадач па радыё, праводзіць агляды каляровых казак з плёнак і г.д.

У гарадоцкай бібліятэцы з нагоды Дзён асветы, кніжкі і друку адбыліся аўтарскія сустрэчы з рэдактарам «Новай Всі» Здзіславам Марцам, беларускім паэтам Алесем Барскім і беластоцкім пісьменнікам Аляксандрам Амільяновічам. Пры бібліятэцы добра працуе чытальня. Сюды прыходзіць прэса на польскай, рускай і беларускай мовах. Можна тут пачытаць штотыднёвікі, месячнікі і штодзённую прэсу. Бібліятэка і чытальня прыгожа ўдэкараваныя: насценгазеткамі, фотавітрынамі, кніжнымі абвалютамі і г.д. Усё гэта стварае мілае і прыемнае ўражанне.

*Янка Цялушэцкі*




*Дарагое Сэрцайка!*

Два гады таму назад я пазнаёмілася з хлопцам, які працуе ў Шчэціне. Ён добра зарабляе і нічога яму не бракуе. А паходзіць ён з суседняй вёскі. Мы перапісваліся. Пару разоў нават прыязджаў да мяне ў вёску (я працую на гаспадарцы з бацькамі). Нядаўна ізноў прыехаў, і мы вырашылі пажаніцца. Я паехала з ім у Шчэцін і мы падалі дакументы ў загс. 1-га верасня меў адбыцца наш шлюб. Перад 1-шым верасня я атрымала пісьмо, у якім ён паведамляў, што хоча адлажыць шлюб, бо захварэў і трапіў у бальніцу. Потым пісаў зноў і зноў. Тады я яшчэ не пераймалася, але цяпер, калі ён ізноў напісаў, што прыедзе і не прыехаў, я і мае бацькі не ведаем, што рабіць. Мая старэйшая сястра гаворыць, што, напэўна, Вася перадумаў і толькі мяне зводзіць. Але не вельмі хочацца мне ў гэта верыць, бо Вася выглядае на разумнага і разважлівага чалавека. Бацькі гавораць, каб я паехала да Васі і каб выясніла ўсё на месцы. А я не ведаю, ці ехаць і выясніць справу, ці чакаць ізноў пісьма. Парай.

*Ніна з Сакольшчыны*

*Ніна!* Васю знаеш ты ўжо два гады. Пішаш, што ён разважлівы і разумны чалавек. Разумею, што твая цяперашняя сітуацыя выглядае няясна, аднак не трэба ўжо так песімістычна думаць. Мо сапраўды Вася захварэў і папаў у бальніцу, тады, вядома, быў вымушаны адлажыць шлюб. Але бацькі твае, напэўна, маюць рацыю. Таму паедзь ты да Васі, і ўсё выясніцца. Аднак перад гэтым раю табе паведаміць Васю аб прыездзе.

*Сэрцайка*

### ЗЛЁТ ПАЖАРНІКАЎ — ВЕТЭРАНАЎ



Такі злёт адбудзецца ў Гайнаўцы. Трыццатага верасня адбыўся ў Саколцы. Быў гэта павятовы злёт пажарнікаў — ветэранаў II-ой сусветнай вайны. Іх на Сакольшчыне 65 чалавек.

У злёце прынялі ўдзел улады, моладзь, запрошаныя госці. Шмат пажарнікаў- ветэранаў было ўзнагароджана медалямі *«За заслугі ў пажарніцтве»*. Сярод узнагароджаных група пажарнікаў з Крушынянаў: Аляксандр Макаль, Кастусь Наумовіч, Эдвард Пятэльскі, Вінцэнт Кахаidоўскі; двое з Бабікаў — Уладыслаў Кудашэвіч і Іван Мянько; Іван Суравец з Гаркавічаў, Іван Карповіч з Верхняга Уснара, Іван Прокаш і Іван Рэдзька са Старой Камянкі, а з Сачкоўцаў — Станіслаў Белашэвіч, Станіслаў Паўлоўскі і Іван Дарошчык, Вацлаў Юргевіч з Прыстаўкі і інш.



Ветэраны падзяліліся з прысутнымі сваімі ўспамінамі з часоў апошняй вайны.

На здымках бачым хвілю, калі старшыня ПРН ў Саколцы Аляксандр Чуж уручае медалі «За заслугі ў пажарніцтве» і ўстаноўленую ганаровую варту каля помніка ўдзячнасці Савецкай Арміі ў Саколцы. На злёт былі запрошаны найлепшыя члены жаночых пажарных каманд з Крынак, Кузніцы і Карыціна, якіх бачым на здымку ўжо пасля ўрачыстасцей.

*Тэкст — С. Я.*

*Фота — Ю. Беражанскі.*



# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**КЛЯШЧЭЛІ**

„Dziesięciu małych Indian" (angl.), 20—21. „Dzwony dla bosych" (czeski), 22—23. „Szkice warszawskie" (polski), 24—25.

**ДУБІНЫ**

„Mściciel z przeklętej góry" (jugosł.), „Naczelnik Czukotki" (radz.), 24—25.

**НАРАЎКА**

„Dziewczyna na rozdrożu" (bułg.), „Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosł.), 21—25.

**НАРВА**

„Lew pręży się do skoku" (węgierski), „Przygody Tomka Sayera" (rumuński), 21—25.

**ЧЫЖЫ**

„Tajemniczy mnich" (radz.), „Śmierć Indianina" (rumuński), 21—25.

**ДУБІЧЫ ЦАРКОЎНЫЯ**

„Grawitacja" (jugosł.), „Na szlaku wojennych przygód" (czeski), 21—25.

**АРЭШКАВА**

„Nowy" (polski), „Szczęśliwy Aleksander" (polski), 24—25.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**БОЦЬКІ**

„Za frontem" (rumuński), „Kobieta wąż" (angl.), 21—25.

**ОРЛЯ**

„Każdemu swoje" (włoski), „Paragon gola" (polski), 21—25.

**РАЙСК**

„Znicz olimpijski" (polski), „2 mamy i 2 ojców" (jugosł.), 21—25.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**МІХАЛОВА**

„Dialog" (węgierski), 20—21. „Che/opowieść o Guewarze" (włoski), 22—23. „Bumerang" (polski), 24—25.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**КРЫНКІ**

„Ostatni termin" (USA), 20—21. „Pamiętnik pani doktór" 22—23. „Testament gangstera" (franc.), 24—25.

**ЯНАЎ**

„Bestia" (węgierski), 21—25.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**НУРЭЦ**

„Kaukazka branka" (radz.), 20—21. „Bicz Boży" (polski), 22—23. „Gra" (polski), 24—25.

**МЕЛЬНІК**

„Wieczny kalendarz" (bułg.), 20—21. „Pali się moja panno" (czeski), 22—23. „Polowanie na muchy" (polski) 24—25.

**МІЛЕЙЧЫЦЫ**

„Hasło bez odzewu" (bułg.), 20—21. „Gdy miłość przemija" (jugosł.), 22—23. „Powrót rewolwerowca" (USA), 24—25.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**СУХАВОЛЯ**

„Ostatni termin" (USA), „Zdobywcy nieba" (radz.), 21—25.

**НОВЫ ДВОР**

„Szczęśliwy Aleksander" (franc.), „Wyspa na lądzie" (węgierski), 24—25.

драпежнага звера, калі ён, учапіўшыся пазногцямі ў стол Напалеона, крычаў: «Свет лічыць, што з Германіяй пакончана! Што можна ўжо назначыць час і месца пахавання! Але мы пераадолеем гэту выпадковую сітуацыю і ўсёй магутнасцю пойдзем на Захад. Вось тады мы паглядзім, каго хаваць першым!»

Узяўшы госця пад руку, Гітлер падвёў яго да карты Рэйнскай вобласці і Паўночна-Усходняй Францыі. Напышлівымі словамі ён расказваў пра ваенныя акцыі, якія ў гісторыі вайны будуць зафіксаваны як наступленне ў Ардэнах. «Маланкавы ўдар цераз Ардэнскі лес рассячэ саюзныя арміі на дзве бездапаможныя часткі!» — радаваўся Гітлер.

Прыжмурыўшыся, ён уставіўся на Скарцэні. «Неабходна нанесці ўдар, які адцягне ўвагу нашых праціўнікаў ад наступлення, што падрыхтоўваецца намі! Гэты ўдар мы можам нанесці, знішчыўшы вярхоўнага галоўнакамандуючага войскамі саюзнікаў!»

Цяпер Скарцэні стала ясна, дзеля чаго яго выклікалі з Берліна.

Скарцэні распачаў выкананне загаду. Неўзабаве ён зразумеў, з якімі цяжкасцямі яму давядзецца сутыкнуцца. З тых, хто не ўваходзіў у асабісты штаб Гітлера, пра «аперацыю Грыф» ведалі толькі два армейскія генералы. Гэта само па сабе было сур'ёзнай цяжкасцю, таму што для падбору і падрыхтоўкі людзей Скарцэні адчуваў патрэбу ў дапамозе арміі. Справа ўскладнялася яшчэ і тым, што адзін з двух памянёных генералаў адмоўна ставіўся да самога плана. Гэта быў фельдмаршал Карл фон Рундштэт, адклікааны Гітлерам з пенсіі, каб узначаліць наступленне ў Ардэнах. Ён лічыў, што ўся задума «бязглуздая, да ідыятызму».

Таму, калі Скарцэні напрасіўся на прыём да Рундштэта для абмеркавання плана Гітлера, ён атрымаў недвухсэнсоўную адмову. Збянтэжаны Скарцэні звярнуўся за дапамогай да фельдмаршала Кейтэля. Кейтэль (пазней павешаны ў Нюрнбергу як ваенны злачынец) далікатнасцю не вызначаўся. Ён накіраваў камандзірам корпусаў і дывізій дырэктыву: «Для выканання спецыяльнага задання патрабуюцца салдаты і афіцэры, якія крыху размаўляюць па-англійску. Кандыдатаў, якія адпавядаюць гэтым патрабаванням і добраахвотна выказалі жаданне ўдзельнічаць у выкананні задання, адкамандзіраваць у распараджэнне падраздзялення, начальнікам якога з'яўляецца падпалкоўнік Ота Скарцэні. Яго штаб знаходзіцца ў Фрыдэнталі, куды і трэба звяртацца. Кейтэль».

Калі Скарцэні даведаўся пра гэту дырэктыву, ён неадкладна паслаў Гітлеру тэлеграму, у якой настойваў на адмене «аперацыі Грыф». Тэлеграма заканчвалася словамі: «Паколькі ўказаная дырэктыва атрымала такое шырокае распаўсюджанне, я перакананы, што пра яе ўжо вядома контрразведцы саюзнікаў, якая, напэўна, здолела здагадацца, аб чым ідзе гутарка.

Але афіцэр сувязі СС генерал Фегелейн затрымаў тэлеграму. Ён выклікаў Скарцэні да сябе. Учыніўшы яму разнос, генерал заявіў: «Гітлер ніколі не ўбачыць вашу тэлеграму. Яна кідае цень на аднаго з фельдмаршалаў рэйха і на ўвесь генеральны штаб. Прапаную вам працягваць падрыхтоўку аперацыі ў адпаведнасці з загадам фюрэра».

*(Працяг будзе)*

### ФАКУЛЬТАТЫЎНЫЯ ЗАНЯТКІ

Ад 1 верасня 1970 г. у ліцэях пачаліся факультатыўныя заняткі. У беларускім ліцэі ў Бельску заняткі гэтыя падзяляюцца на некалькі груп: фізічна-матэматычная група, біялогіі з хіміяй і геаграфічна - эканамічная група. Вучні належаць да адной з груп і тут могуць развіваць свае здольнасці. Заняткі гэтымі кіруюць нашыя школьныя настаўнікі.

### ПРАКТЫКАНТЫ У ЛІЦЭІ

Амаль штогод Бельскі беларускі ліцэй наведваюць студэнты з беларускай філалогіі Варшаўскага ўніверсітэта, якія тут праходзяць практыку па беларускай мове. Іх у нашым ліцэі аж 8 чалавек. Дзве з іх — гэта нашыя былыя абсальвенты. Яны разам з настаўніцай беларускай мовы мгр Зінаідай Красоўскай выкладаюць беларускую мову.

*Вера Ахрымюк*

*Бельскі беларускі ліцэй*


# Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6 51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

BZGraf. Nakład 7085 W-

